


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

5 верасня 2014 года №36 (1010)



## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Праваднога радыё ўжо не будзе

**МЯДЗЕЛ.** Ад 15 верасня ў Мядзеле, бліжэйшых да райцэнтра вёсках і к. п. Нарач (Купа) адключаюць правадное радыёвяшчанне. У іншых населеных пунктах раёна яго адключылі яшчэ раней. Першы нацыянальны канал Беларускага радыё можна будзе слухаць толькі па радыёпрыёмніках. Адключэнне праваднога радыёвяшчання праходзіць па ўсёй краіне згодна з графікам.

### Ля вадасховішча згарэла машына рыбака

**ВІЛЕЙКА.** Каля вёскі Сосенка гарыць машына. Такое паведамленне паступіла вілейскім выратавальнікам а палове трэцяй ночы 3 верасня. На момант прыезду выратавальнікаў аўтамабіль "Субару-Легасі" ўжо цалкам згарэў. На ім кіроўца з сябрам прыехалі з Мінска на рыбалку на Вілейскае вадасховішча. Ноччу ляглі спаць. Адзін з рыбакоў прачнуўся ад паху дыму. Спрабавалі патушыць самі, але не атрымалася, патэлефанавалі па "101". Прычына пажару ўстанаўліваецца, расказаў інспектар нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Балаш**.

### "Кутарскі фэст" пройдзе ў Кальчунах

**АШМЯНЫ.** Фэст адбудзецца 5 верасня каля Дома культуры ў 17.00. У праграме свята: літаратурна-музычная кампазіцыя "Славутая кальчунская зямля", кірмаш сельгаспрадукцыі, майстар-клас майстроў рэгіёна. Паміж камандамі вёскі Будзёнаўка і аграгарадка Кальчуны пройдзе таварыскі матч па футболе. На канцэрце "Добры дзень вам, добрыя суседзі" выступяць лепшыя творчыя калектывы раёна. Будуць працаваць дзіцячыя гульнёвыя пляцоўкі, атракцыёны, міні-кафэ і гандлёвыя палаткі.

### Страляючую аўтаручку знайшлі ў Смаргоні

**СМАРГОНЬ.** Жыхар Смаргоні прыйшоў у міліцыю з незвычайным самаробным прыстасаваннем. Яно страляе патронамі калібру 5,6 міліметра. Выраб ён знайшоў у доме бацькі. Пасля яго смерці сын прыбіраўся там і натрапіў на "стралялку" і 44 патроны. Эксперты высветлілі, што такой зброяй можна забіць чалавека. Гэта аналаг страляючай аўтаручкі.

**Аддзел інфармацыі.**



# "З пустым кошыкам ніколі не вяртаюся"

## Грыбнік з Ілы назбіраў 537 баравікоў за тры гадзіны

**ВІЛЕЙКА. Аматар ціхага палявання, 44-гадовы Юры Вайцяхоўскі, ужо на пачатку восені ўстанаўлівае грыбныя рэкорды.**

– Трохі грэбую парадамі дактароў: гуляць трэба, але не так шмат, як я, – прызнаецца ён. – Вось нядаўна пабіў свой лепшы вынік і назбіраў за тры гадзіны 537 баравікоў.

Бывала, збіралі і больш, але падлічваць пачалі нядаўна. Аднойчы ўтраіх, разам з жонкай і сястрой, сабралі каля тысячы баравікоў.

Пералічваць "здабычу" дапамагае сын **Максім**.

– Што-што, а грыбы я збіраць умею! – працягвае мужчына. – Нават калі сухата, я ўсё роўна іх знайду. Яшчэ ні разу не было, каб вярнуўся дадому з пустым кошыкам.

### Толькі руку запушчу – шэсць баравікоў

У лес Юры бярэ жонку **Аксану** і 12-гадовага сына Максіма.

– Я смела называю гэта паляваннем: палюю на грыбы, як іншы на дзічыну.

Мужчына добра ведае ільянскі лес і ніколі не блукае. Ён тут вырас, тут і жыве. Збірае грыбы з самага дзяцінства і прывучае да гэтага свайго сына.

– Ведаю кожны кусцік, кожную елачку. Толькі ў мох запушчу рукі – адразу штук шэсць баравічкоў знаходжу. Галоўнае – акуратна выкруціць іх з зямлі і ні ў якім разе не вырываць, бо можна сапсаваць грыбніцу.

У такую пару сям'я Вайцяхоўскіх ходзіць у грыбы амаль штодня. Нават падчас абедзеннага перапынку. І збіраюць адразу па чатыры кошыкі.

– Я вяду каляндар, у якім пазначана, што баравікі пачынаюць расці ад 15 да 20 жніўня, а ад 25 да 10 верасня – падасінавікі. Сам грыбны сезон пачынаецца прыкладна ў канцы мая і заканчваецца ў кастрычніку-лістападзе, калі пачынаюцца замаразкі.




Юры Вайцяхоўскі з Ілы са сваім грыбным уловам.

### Грыбнік раскрывае сакрэт

Збіраць грыбы – адна справа, а вось парадкаваць іх даводзіцца жонцы.

– Бывае, што ўвесь вечар трэба з імі вазіцца, пакуль перабярэш, зварыш, раскладзеш па пакетах, – расказвае Аксана Вайцяхоўская. – Некаторыя марожу на суп, некаторыя марыную, а некаторыя сушу.

Сушыць дапамагае муж, а перабіраюць усе разам.

– Вось ужо 28 літраў замарынавалі, пяць кілаграмаў насушылі, – кажа Юры. – Шкада, што пасля перанесенага інфаркту ў мяне дыета і грыбы есці нельга. Збіраю іх, таму што гэта мой адпачынак, захапленне, любімая справа.

Юры Вайцяхоўскі падзяліўся з чытачамі "РГ" сваім сакрэтам. Каб падасінавікі не сінелі, іх неабходна адразу чысціць і кідаць ў кіпячую ваду, тады іх будзе не адрозніць ад баравікоў. Яны будуць такія ж белыя.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**




Фота Настассі РОЎДЫ.

Наведніца леташніх моўных курсаў у Маладзечне Аня Філістовіч.

АДУКАЦЫЯ

# “Мова Нанова” распачынае новы сезон

**МАЛАДЗЕЧНА. Першыя заняткі бясплатных моўных курсаў адбудуцца 15 верасня ў кавярні “Накат” (ГЦ “Тройка”, 4 паверх) а 19-й гадзіне.**

Вы цудоўна адпачылі гэтым летам, але стаміліся ад таго, што побач з вамі гучала толькі іспанская і грэчаская мовы? Тады вам да нас!

Таму што на занятках “Мовы Нанова” гучыць толькі родная, беларуская.

Вы цудоўна папрацавалі гэтым летам на лецішчы? Але стаміліся насіць з агародаў вёдры памідораў і мяхі бульбы? Тады вам да нас!

Таму што на занятках “Мовы Нанова” самае цяжкае, што вам давядзецца падымаць, – гэта асадкі і алоўкі.

Вашы дзеці пайшлі ў школу і штовечар даймаюць вас просьбамі зрабіць урокі? Тады вам да нас!

Таму што мы ведаем, як зрабіць так, што мова для вашых школьнікаў будзе толькі ў радасць.

Вы не ведаеце куды запрасіць на спатканне дзяўчыну? Тады вам да нас.

Таму што ў нас у канцы кожных заняткаў выступаюць модныя беларускамоўныя гурты і выканаўцы.

Усё гэта чакае вас цягам года, а першыя заняткі мы прысвецім самай вераснёўскай тэме – “Адукацыя”.

Пагутарым і паспрачаемся на тэму платнай адукацыі і абавязковай адпрацоўкі пасля заканчэння ВНУ. А таксама вас, як заўсёды, чакае шмат карыснай інфармацыі, сюрпрызаў, гульняў і падарункаў.

**Наталля ТУР, Настасся РОЎДА, вядоўцы курсаў “Мова Нанова” ў Маладзечне.**

**Хто прыйдзе на першыя заняткі у беларускай вышыванцы – атрымае ў падарунак фірменны нататнік “Мовы Нанова”. Майкі з машыннай вышыўкай і прынтамі таксама залічваюцца.**

СВЯТЫ

## На “Дажынках” частуюць выпечкай

**МЯДЗЕЛ. На Мядзельшчыне раённае свята “Дажынкі-2014” прайшло 30 жніўня ў вёсцы Сваткі. Уздоўж цэнтральнай вуліцы расставілі вялікія саламяныя фігуры, сельскагаспадарчую тэхніку.**

Гаспадаркі раёна падрыхтавалі вясковыя падворкі. І кожная старалася яго ўпрыгожыць як найлепей: то прадметамі даўніны, то цікавымі персанажамі. Паказвалі тут і тое, што вырасцілі на палетках і ў садах. Прапанавалі паласавацца вясковымі пачастункамі: багата было рознай выпечкі. Дэманстравалі свае вырабы народныя майстры.

Урачыстым шэсцем дэлегацыі гаспадарак прайшлі да сцэны. Тут ўзнагародзілі пераможцаў раённага спаборніцтва на жніве. Найлепшай гаспадаркай стала таварыства “Сваткі”. Адсюль жа і найлепшы экіпаж камбайнераў – **Уладзімір Швайкоўскі** і **Максім Дрозд**.

А потым быў святочны канцэрт.

**АСТРАВЕЦ.** Сёлета раённыя “Дажынкі” праходзяць па вёсках. На Астравеччыне яны адбудуцца 20 верасня ў Гервятах. На свяце павіншуюць перадавікоў жніва. Падвядуць вынікі конкурсаў на лепшыя аб’ёмную фігуру, сноп і каравай. У канцэртнай праграме выступяць артысты мясцовай самадзейнасці і спявак **Саша Нэма**.

Можна будзе пабачыць выставу сельскагаспадарчай тэхнікі і вырабаў народных майстроў, паўдзельнічаць у спартыўных спаборніцтвах.

**Аддзел інфармацыі.**

ЗДАРЭННІ

## Зноў у вяскоўцаў крадуць грошы

**ВІЛЕЙКА.У міліцыю 30 жніўня звярнулася 83-гадовая жыхарка вёскі Шыпкі Хаценчыцкага сельсавета. У яе з шафы знік скрутак з грашыма.**

Апошні раз яна іх бачыла 28 жніўня. А калі праз два дні яны ёй спатрэбіліся – грошай ужо там не было.

Асноўная версія, што адпрацоўваецца, такая. Да жанчыны 29 жніўня заходзілі нязваныя госці. Дзве жанчыны прапанаваліі купіць пасцельную бялізну. Потым, каб адцягнуць увагу, папрасілі нажа нарэзаць сала. Прабылі яны ў хаце каля паўгадзіны, расказаў старшы следчы Вілейскага раённага аддзела Следчага камітэта **Аляксандр Путырскі**.

Нагадаем, што аналагічны выпадак адбыўся ў вёсцы Шчарачыха 10 красавіка. Тады ў хату зайшлі чатыры жанчыны. Таксама папрасілі нажа, каб парэзаць сала. Пасля іх візіту з шафы зніклі амаль усе грошы.

**Аддзел інфармацыі.**

КІНО

## Вілейшчына сышла за Чэхію

**ВІЛЕЙКА. Чатыры вераснёўскія дні ля вёскі Заспарня Асіпавіцкага сельсавета праходзілі здымкі тэлевізійнага фільма. Гэта сумесны расійска-беларускі праект.**

Фільм здымаецца па творы “Неапалімая купіна” вядомага рускага пісьменніка, аўтара аповесці “А зоры тут ціхія” Барыса Васільева.

У Вілейскім раёне здымалі падзеі 8-9 мая 1945 года ў Чэхіі.

Шасцісерыйны фільм плануюць паказаць па адным з тэлеканалаў напрыканцы зімы – пачатку восені 2015 года. Больш падрабязна пра здымкі чытайце ў наступным нумары “РГ”.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## СПАЧУВАННІ

**Паважаны Аляксандр Аляксандравіч Салагуб!**

Жыццё, на жаль, такое, што нам даводзіцца развітвацца назаўсёды з самымі блізкімі, роднымі людзьмі. Смерць дарагога Вам чалавека – жонкі Кацярыны Аляксандраўны – узрушыла і нас. Мы смуткуем разам з Вамі і выказваем шчырыя спачуванні. Трымайцеся!

**Калектыў “Рэгіянальнай газеты”.**

Калектыў турысцкага клуба “Пілігрым” выказвае шчырыя спачуванні **Аляксандру Аляксандравічу Салагубу** з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора – смерці жонкі Кацярыны Аляксандраўны.



Фота traemcreely.com.

Аўтааматары шукалі машыну ў Амерыцы і даверыліся махляру. Суд разабраўся ў справе, таму пацярпеламу вярнулі грошы.

● ПРАКУРАТУРА, СУД

# Далі амаль $30 000 бізнесмену-махляру

**МАЛАДЗЕЧНА. Аўтааматары хацелі атрымаць машыны з Чыкага, а сталі ахвярамі падману прадпрымальніка.**

Прадпрымальнік дапамагаў падбіраць і прывозіць машыны з ЗША ў Беларусь. Прадстаўляўся супрацоўнікам чыкагскай кампаніі "Avtokompas Inc", хаця не мае да арганізацыі ніякага дачынення.

Ён даў падпісаць несапраўдныя кантракты двум чалавекам, па якіх яны нібыта набывалі машыны з Чыкага.

Прадпрымальнік ведаў, што заплаціць за амерыканскія машыны можна толькі безнаяўным шляхам праз банк. А ён прымаў наяўныя грошы ў тых, хто хацеў атрымаць машыну з Чыкага.

**Суду вядома пра дзвюх ахвяр прадпрымальніка. Жанчына аддала яму $14 200, мужчына – $13 500.**

### Махляр прыкінуўся ахвярай

На судзе абвінавачаны прадпрымальнік сказаў, што ён сам пацярпелы.

Нібыта ён грошы ад пацярпелых перадаў пасрэдніку з амерыканскай фірмы, які прыязджаў па іх у Ашмяны з Літвы. Абвінавачаны нават паказаў распіскі з адрасам і пашпартнымі дадзенымі літоўца, якія атрымаў за грошы.

Але гісторыя з літоўскім пасрэднікам не пацвердзілася. Паводле базы "Пасажырапаток", названы чалавек не прыязджаў у Беларусь. Больш за тое, пашпарт з рэквізітамі з распіскі не выдаваўся.

Паводле заключэння эксперта, подпісы ў распісках ад выдуманай асобы пастаўіў знаёмы абвінавачанага па яго просьбе.

Бізнесмена за махлярства прыгаварылі да пяці год узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. З яго спагналі 250 мільёнаў рублёў на карысць пацярпелых.

У канцы ліпеня адпаведны прыгавор суда ўступіў у законную сілу.

**Іван НЕЎМЯРЖЫЦКІ,**
**старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

● КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

## Прыбораў па зберажэнні энергіі не хапае

**МАЛАДЗЕЧНА. Колькі можна зэканоміць электраэнергіі, калі ў пад'ездах будуць стаяць энергазберагальныя прыборы? Шукаем адказ разам.**

"РГ" падлічыла, колькі нагарае святла ў пад'ездах, калі яно гарыць цэлую ноч.

Лічылі па новых тарыфах ад першага верасня – 745 рублёў за кілават.

Цёмна зімой каля 13 гадзін у суткі.

Пры лямпачцы ў 15 ват атрымаецца 145 рублёў за ноч, за месяц – 4 тысячы 400 рублёў.

**Пры лямпачцы ў 150 ват за ноч нагарыць на 1950 рублёў, за месяц – 45 тысяч.**

Грошы як быццам невялікія. Аднак палічым, колькі атрымаецца ў стандартным пяціпавярховым доме на 60 кватэр, калі лямпачкі гараць на кожным паверсе.

Пры маленькай лямпачцы – 66 тысяч рублёў, пры больш магутнай – 675 тысяч.

### Прыборы ёсць, але псуюцца

**Уладзімір Камяк**, галоўны інжынер "Камунальніка", адзначае, што ў Маладзечне цяпер ставяць святлодыёдныя ліхтары. У іх усталяваны датчык руху.

– Святло ў пад'ездзе не гарыць усю ноч, – тлумачыць спецыяліст. – Прыбор рэагуе на гук, напрыклад, топанне, стукі. Такі ліхтар, напрыклад, ужо ёсць у доме 13-м па вуліцы Крынічнай. Каштуе 150 тысяч рублёў. Акупляецца за паўгода. Ва ўсіх пад'ездах пакуль мы не можам іх усталяваць. Яшчэ стаяць старыя мадэлі з фотаакустычнымі элементамі. Часам яны псуюцца, і тады святло ў пад'ездах само не выключаецца.

Калі жыхары пэўнага дома хочуць паставіць сабе такі ліхтар, яны могуць звярнуцца ў домакіраўніцтва. Тыя ў сваю чаргу звяртаюцца ў "Камунальнік", які разглядае пытанне. Аплачвае прыбор служба, якая ўсталёўвае яго.

**Галіна СІНІЦА.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

# 11

**У столькі разоў зменшылася колькасць няшчасных выпадкаў на вытворчасці за апошнія 24 гады**

**Летась зарэгістраваны 2001 такі выпадак**

Паводле дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта Беларусі

| Курсы валют НБ РБ | 28.08 руб. | 4.09 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 10 420,00 | **10 450,00** |
| Еўра | 13 730,00 | **13 720,00** |
| Злоты | 3 282,46 | **3 278,74** |
| Літ | 3 977,33 | **3 979,44** |
| Расійскі рубель | 288,50 | **280,00** |
| Грыўня | 764,52 | **838,60** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13710 | **13700/13800** |
| Долар ЗША | 10410 | **10430/10480** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 27.08 | 3.09 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 144900 | **131400** |
| Сасіскі, 1 кг | 54450 | **50900** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28900 | **31950** |
| Ялавічына (выразка), 1 кг | 110000 | **90000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 27150 | **29500** |
| Селядзец, 1 кг | 35000 | **28000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 105800 | **105800** |
| Рыс, 0,9 кг | 14200 | **14200** |
| Грэчка, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей "Масловія" | 13650 | **13650** |
| Маянэз, 200 г | 5650 | **5650** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 9800 | **9800** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 30000 | **32000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 9500 | **9500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7000 | **6500** |
| Капуста, 1 кг | 5000 | **5000** |
| Морква, 1 кг | 6500 | **6000** |
| Буракі, 1 кг | 4900 | **4900** |
| Лімоны, 1 кг | 35000 | **48000** |
| Апельсіны, 1 кг | 18500 | **17500** |
| Мандарыны, 1 кг | 27500 | **27900** |
| Памідоры, 1 кг | 7900 | **8900** |
| Агуркі, 1 кг | 15900 | **12500** |
| Кавун, 1 кг | 4900 | **5500** |
| Дыня, 1 кг | 11900 | **11500** |
| Вінаград, 1 кг | 21500 | **22000** |
| Бананы, 1 кг | 12000 | **11900** |
| Яблыкі, 1 кг | 10500 | **9500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 23900 | **21900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 90000 | **90000** |
| Тварог, 1 кг | 50000 | **50000** |
| Бульба, 1 кг | 5000 | **4900** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **23000** |

● ШКОЛА

## Харчаванне ў школах застаецца бясплатным

**МАЛАДЗЕЧНА. Пытанне пра платнае харчаванне ў пачатковых класах застаецца адкрытым.**

Як паведаміла намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму **Соф'я Філістовіч**, абеды для вучняў 1 - 4 класаў застаюцца бясплатнымі, як і было раней.

Гэта тычыцца як гарадскіх, так і сельскіх школ Маладзечанскага раёна.

Заўсёды бясплатнае харчаванне было і для школьнікаў з 5 па 11 класы, якія жывуць у сельскай мясцовасці.

Абеды платныя толькі для старэйшых класаў. Класны кіраўнік 8 "А" класа гімназіі №3 **Кацярына Івашанка** расказала, што каштаваць абеды будуць прыкладна 40 тысяч рублёў на тыдзень.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

# Гаспадары разбітых машын расказваюць пра “скакуноў”

**МАЛАДЗЕЧНА. Ноччу 26 жніўня хуліганы пашкодзілі ў дварах 35 машын. Чаму гаспадары не выклікалі міліцыю адразу?**

**Юлія Фалей**, уласніца аднаго з аўто, бачыла “скакуна”.

– Муж выйшаў на балкон, калі адзін з хуліганаў крыкнуў “Паша”. Сігналізацыі ў машынах ужо раўлі. А малойчыкі пабеглі далей. Адразу пасля гэтага выйшлі на вуліцу. Ніводзін ліхтар у двары на Вялікім Гасцінцы не гарэў. Таму свяцілі ліхтарыкам на капот. Спачатку здалося, што ўсё нармальна. Падумалі, хлопцы па дарозе дамоў весяліліся.

Раніцай муж убачыў на суседняй белай машыне сляды ад ног. Напэўна, скакалі спачатку па ёй, потым пераскочылі на нашу. Побач стаяў мінівэн. З яго, відаць, сарваліся, калі пераскоквалі, – дзверы былі ў гразі.

У сваім двары па Вялікім Гасцінцы жанчына налічыла дзесяць пашкоджаных машын.



Фота Віктара ГАЛІЦКАГА, kp.by.

Невядомыя разбілі лабавое шкло ў машыне маладзечанца Анатоля.

### Убачылі ўмяціну праз два дні

Уласніца “Сітраэна-Эвазіёна” 1996 года выпуску **Дар’я Гудзько** заўважыла ўмяціну на даху, калі хацела памыць аўто. Не адразу, таму што аўтамабіль высокі. Стаяў каля ўнівермага “Рублёўскі”, першы ад ларкоў. Патэлефанавалі ў міліцыю. За тры гадзіны афармілі ўсе дакументы. Рамонт ацанілі ў чатыры мільёны рублёў.

Як гаворыць уласніца, у іх двары пашкодзілі тры аўтамабілі.

### Няма страхоўкі – рамантуй за ўласныя сродкі

**Яўген Згірскі**, уласнік аўтамабіля “Фольксваген-Гольф” 1990 года выпуску, гаворыць:

– 26 жніўня каля 2-3 гадзін ночы на ім спрацавала сігналізацыя. Зірнуў у акно – нікога няма. Праз 20 секунд яна выключылася – значыць, машыну не ўскрылі.

На наступны дзень ён нікуды не ездзіў, таму пашкоджанне заўважыў праз два дні. На аўто былі драпіны, умяціна на капоце, памяты дах.

Машына стаяла паміж школай №11 і домам №17 па вуліцы Скарыны.

Страхоўкі “Каска” ў гаспадара няма – даводзецца рамантаваць “Фольксваген-Гольф” за свае грошы.

**Галіна СІНІЦА.**

### Хуліганы феерычна адзначылі дзень нараджэння

Напярэдадні ў аднаго з іх быў дзень нараджэння. Адзначалі яго некалькі дзён. Выпіўшы, маладыя людзі захацелі пакуражыць. Больш чым дзве гадзіны яны гулялі па горадзе. Разбівалі шкло і фары ў машынах, скакалі па капотах і дахах.

Супрацоўнікі РАУС затрымалі хлопцаў 30 жніўня. 2 верасня, у аўторак, іх заключылі пад варту. Маладыя людзі прызналіся ў здзяйсненым.

Гавораць, што яны былі п’яныя. Таму хадзілі па горадзе і білі машыны.

Аднаму з хлопцаў 19 гадоў, другому – 21. Працуюць будаўнікамі ў Маладзечне. Адзін – мулярам, другі – тынкоўшчыкам.

**Юры Багушэвіч**, старшы следчы Следчага камітэта Маладзечанскага раёна, адзначыў:

– Сляды абутку на машынах супалі з абуткам падазроных. Цяпер прызначылі дадатковую экспертызу. Следства будзе ісці прыблізна два месяцы. Па яго выніках назначаць дату суда.

● ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ!

## “Ляжачага паліцэйскага” нельга пакласці

**МАЛАДЗЕЧНА. Не так даўно на вуліцы Астрожскага паклалі доўгачаканы асфальт. З-за добрай дарогі кіроўцы перавышаюць хуткасны рэжым. Жыхароў вуліцы насцярожвае такая сітуацыя.**

На дарозе няма ні адной штучнай няроўнасці, якая кантралявала б хуткасць машын.

– Пакласці штучную няроўнасць на дарозе можна толькі адпаведна стандарту тэхнічнай бяспекі, – кажа дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**. – Штучныя няроўнасці можна класці каля школ, садкоў, бальніц, вялікіх крамаў і ў месцах канцэнтрацыі дарожна-транспартных здарэнняў, звязаных з наездамі аўтатранспартных сродкаў на пешаходаў. Устанавіць можна толькі знак, які будзе абмяжоўваць хуткасць. А ён там ужо ёсць.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

● СЛУЖБА 101

## У Маладзечне ў пажары загінуў гаспадар кватэры

**МАЛАДЗЕЧНА. Неасцярожнасць пры курэнні прывяла да смерці гаспадара.**

30 жніўня, у суботу, а шостай гадзіне раніцы па вуліцы Маркава адбыўся пажар.

Выратавальнікі, прыехаўшы на месца здарэння, заўважылі агонь і дым з акна на другім паверсе.

У кватэры быў 40-гадовы гаспадар. Работнікі “хуткай дапамогі” канстатавалі смерць мужчыны.

Паводле слоў суседзяў, гаспадар злоўжываў спіртным.

Агонь пашкодзіў мэблю, закураныя сцены.

**Ксенія ТАРАТУТА, інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Маладзечанскага ГРАНС.**

● КРЫМІНАЛ

## На хутары Шаблі ў мужчыны знайшлі марыхуану

**ВАЛОЖЫН. На фестывалі “Дружба”, які прайшоў 1 жніўня, у 26-гадовага мінчаніна знайшлі марыхуану. 29 жніўня справу перадалі ў суд.**

– Супрацоўнікі міліцыі на ўваходзе правяралі ўсіх, хто прыехаў на фестываль, – кажа следчы Следчага камітэта **Уладзімір Падарэцкі**, – і ў мужчыны знайшлі скрутак ў поліэтыленавым пакеце.

Як аказалася, гэта была марыхуана. Мужчына сказаў, што ўзяў яе, каб расслабіцца.

Узбуджаная крымінальная справа. Мужчыну могуць даць абмежаванне волі да 5 гадоў ці пазбаўленне волі ад 2 да 5 гадоў.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

● ПРАКУРАТУРА, СУД

## Пасажыра, што напаў з нажом на таксіста, пасадзілі на восем гадоў

**МАЛАДЗЕЧНА. Кіроўца вёз п’яных маладзёнаў у вілейскі бар, адзін з іх приставіў нож яму да горла і запатрабаваў грошы.**

Здарэнне адбылося ў сакавіку. Двое маладых людзей, якія толькі што пазнаёміліся, каля трох гадзін ночы вырашылі з’ездзіць у бар у Вілейку. Адзін з іх сеў на пярэдняе сядзенне, другі – на задняе. Па дарозе маладзёны пілі гарэлку. Мужчына, які сядзеў ля кіроўцы, заплаціў за таксі.

Яшчэ ў Маладзечне пасажыр з задняга сядзення раптам прыставіў нож да шыі кіроўцы і запатрабаваў, каб той аддаў усе грошы. Кіроўца спыніў машыну і пачаў адбівацца. Ён парэзаў руку, але змог вызваліцца. Вырваўшы ключ запальвання, таксіст выбег з аўто.

### Ляжаў у агародзе, пакуль не забрала міліцыя

Пасажыр з пярэдняга сядзення пабег у іншы бок. Калі кіроўца вярнуўся да таксі, з машыны выйшаў пасажыр з задняга сядзення і пачаў пагражаць, што зарэжа.

Кіроўца зноў пабег ад машыны, а пасажыр яго даганяў. Калі побач спынілася “хуткая дапамога”, злачынца пабег у іншы бок, пераскочыў праз агароджу ў агарод аднаго з дамоў. Ляжаў там і не варушыўся, пакуль не прыехала міліцыя. Тады ж яго і затрымалі.

У жніўні ўступіў у законную сілу прыгавор, паводле якога абвінавачанага прызналі вінаватым у разбоі. Гэта ўжо другі разбой на асуджаным. З-за таго, што па папярэднім прыгаворы ён не адбыў пакаранне, маладзёну прызначылі пакаранне па сукупнасці прыгавораў – восем гадоў строгага рэжыму з канфіскацыяй усёй маёмасці.

Асуджаны мусіць прымусова лячыцца ад хранічнага алкагалізму.

**Святаслаў ЦІТОВІЧ, памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

● АХОВА ПРЫРОДЫ

## Браканьеры выплацяць штраф каля 100 мільёнаў

**МЯДЗЕЛ. За сем месяцаў года супрацоўнікі Нацыянальнага парку “Нарачанскі” правялі 672 прыродаахоўныя рэйды.**

У браканьераў канфіскавалі 154 сеткі (агульная даўжыня – больш за сем кіламетраў), 181 нерат, чатыры пятлі.

На парушальнікаў наклалі штрафаў на суму больш за 95 мільёнаў рублёў.

**Аддзел інфармацыі.**

МЕДЫЦЫНА

# Доктар: “Ад анкалогіі можна засцерагчыся”

**ВІЛЕЙКА. Чаму нараджаюць дзяцей лепш ва ўзросце да 30 год. Навошта карміць грудзьмі. Што есці, каб не захварэць на анкалогію.**

Адказвае **Валерыя Ганчарова**, анколаг з Вілейкі. Яна сёлета прыехала ў анкалагічны дыспансер па размеркаванні з Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта.

### Хворыя часта звяртаюцца позна

Дзяўчына з дзяцінства марыла быць доктарам. Яе мама, **Святлана Ганчарова**, – раённы псіхіятр у Вілейцы, бабуля, **Лілія Лаўрухіна**, – былы ўчастковы педыятр.

Калектыў прыязна паставіўся да Валерыі. Складанасці ў тым, што хворыя пераважна звяртаюцца па дапамогу на апошніх стадыях.

– Трэцюю можна яшчэ вылечыць, з чацвертай доктар можа толькі палегчыць жыццё чалавеку.

У доктара часта пытаюцца: “Колькі мне засталося жыць?” Яна ніколі не дае пэўнага адказу.

– Колькі Богам адмерана. Здараюцца выпадкі, калі чалавеку прарочаць месяц, а ён жыве год, два. Але бывае і наадварот.

### У Вілейцы новыя методыкі хіміятэрапіі

Практыку ў інтэрнатуры Валерыя праходзіла ў Бараўлянах. Як яна прызнаецца:

– Лечаць там на высокім узроўні. Акрамя лячэння хворых, дактары распрацоўваюць новыя методыкі, напрыклад, фотадынамічную тэрапію.

У Вілейцы ёсць новыя методыкі хіміятэрапеўтычнага лячэння. Распрацоўваюцца і апрабоўваюцца прэпараты, якія дзейнічаюць на малекулярным узроўні – знішчаюць пухліну, але не шкодзяць арганізму. Пакуль яны дарагія і іх няшмат.

У Вілейцы прымяняюць толькі хіміятэрапію і радыялогію, у Бараўлянах робяць яшчэ і аперацыі.

### На рак часцей хварэюць мужчыны

– За апошнія дзесяць год у краіне захворванне на злаякасныя анкалагічныя хваробы павялічылася на 28%. Рызыка развіцця анкалогіі вышэйшая сярод гараджан, – заўважае спецыяліст. – Насельніцтва тут больш. У вёсцы прычына хваробы – сталы ўзрост. Людзі менш даследуюцца ў дактароў. А яшчэ курэнне, алкаголь, цяжкая фізічная праца.

На рак значна больш хварэюць мужчыны, чым жанчыны. Найбольшы ўзровень захворвання – у Мінску і Гомельскай вобласці, найменшы – у Гродзенскай і Брэсцкай абласцях.

Некаторыя ракавыя захворванні можна вызначаць з высокай дакладнасцю. Вялікую ролю адыгрывае спадчыннасць. Калі, напрыклад, у маці быў рак грудзей, то вялікая верагоднасць яго і ў дачкі.

**Калі ў каго-небудзь з бліжэйшых сваякоў было анкалагічнае захворванне, неабходна мець вялікую насцярожанасць у адносінах да ўласнага здароўя.**

### Рак шыйкі маткі ў 14 гадоў

Доктар сцвярджае, што ў апошні час “памаладзеў” рак шыйкі маткі. Сталі хварэць жанчыны да 30 гадоў. Прычына гэтага – нараджэнне дзяцей пазней, адмова ад кармлення грудзьмі.

– У сваёй практыцы я нават сустракала дзяўчынку з ракам шыйкі маткі. Ёй было 14 гадоў, – узгадвае Валерыя.

Вірус папіломы – адна з магчымых прычын хваробы. У свеце тры вакцыны. Пажадана прышчапіцца да пачатку сэксуальнага жыцця, але можна і пазней.

– Пакуль гэта адзіная вакцына прафілактыкі раку, – заўважае доктар. – Але панізіць развіццё хваробы дапаможа здаровы лад жыцця, прафілактычныя агляды, самаабследаванне.



Фота забяспечана Валерыяй ГАНЧАРОВАЙ.

Валерыя Ганчарова ад першага жніўня працуе анколагам у Вілейскай раённай бальніцы.

### Як пазбегнуць раку жанчынам

Па-першае, абследавацца ў гінеколага і самаабследавацца. Жанчынам пасля 45 гадоў праходзіць ультрагукавую дыягностыку малога тазу.

Рабіць узі малочных залозаў трэба людзям з абменна-эндакрыннымі хваробамі (атлусценне, цукровы дыябет, парушэнне менструацыі).

Жанчыны пасля 50 год павінны рабіць мамаграфію адзін раз у два гады.

### Анкалогія баіцца рухаў

Доктар сцвярджае, што людзі з рухомым ладам жыцця менш хварэюць на анкалогію.

– Пры нагрузцы актывізуецца дзеянне гарманальнай і імуннай сістэм, – заўважае доктар. – Ад гэтага паляпшаецца не толькі фізічны, але і псіхалагічны стан. Але перанапружвацца не варта.

### Чарніцы, капуста, цытрусавыя засцерагуць ад раку

– Самая антыракавая ягада – чарніцы, – адзначае доктар. – Таксама арэхі, вінаград, часнок, цыбуля, збожжавыя, капуста, аліўкі і алей з іх. З прыпраў – куркума, кары і імбір. Яркая гароднiна і садавіна, насенне лёну, цытрусавыя, грыбы, марскія водарасці і рыба. З напояў – гранатавы сок, чырвонае віно і зялёны чай. З ласункаў – цёмны шакалад.

Калі рэгулярна есці іх, то можна засцерагчыся ад некаторых відаў раку.

### Анколаг раіць пазбягаць салярыя

Трэба звяртаць увагу на новаўтварэнні на скуры, напрыклад, на новыя радзімкі.

Не знаходзьцеся доўга на вуліцы пад прамым сонцам. Сонечныя прамяні спрыяюць развіццю новаўтварэнняў.

Ад салярыяў лепш адмовіцца. Іх выпраменьванне садзейнічае пухлінам, утварэнню радзімак. У Еўропе іх ужо зачыняюць.

Мужчыны пасля 45 гадоў павінны здаваць аналіз на ПСА (прастатычны спецыфічны антыген). У гэтым узросце можа развівацца рак прастаты.

Трэба наведваць іншых спецыялістаў. Яны таксама могуць заўважыць развіццё анкалогіі.

### Спецыялісты сыходзяць – зарплата малая

Валерыя не лічыць, што маладыя спецыялісты адразу збягаюць да прыватнікаў пасля размеркавання.

– Больш верагодна, калі доктар працуе ў дзяржаўнай бальніцы, а падпрацоўвае ў прыватнай, – адзначае доктар. – Калі сыходзяць, то прычына адна – малы заробак. Гэта ўсе ведаюць, але мірацца.

Пакуль дзяўчына не ведае, дзе будзе працаваць пасля заканчэння размеркавання. Ёй падабаецца ў Вілейцы.

**Галіна СІНІЦА.**

**Даведка “РГ”. Фотадынамічная тэрапія (ФДТ)** – параўнальна новы метад лячэння, заснаваны на ўжыванні лекавых прэпаратаў – фотасенсібілізатараў (рэчываў, адчувальных да святла) і нізкаінтэнсіўнага лазернага выпраменьвання.

## Статыстыка анкалагічных захворванняў у Беларусі

| Анкалагічныя захворванні сярод жанчын | |
|---|---|
| Рак скуры | 19,4% |
| Малочных залоз | 17,7% |
| Маткі | 8% |
| Абадочнай кішкі | 6,3% |
| Страўніка | 5,9% |
| Яечнікаў | 4,6% |
| Прамой кішкі | 4,3% |
| Шыйкі маткі | 4,2% |

| Анкалагічныя захворванні сярод мужчын | |
|---|---|
| Рак лёгкага | 16,5% |
| Прастаты | 15,3% |
| Скуры | 12,3% |
| Страўніка | 8,3% |
| Нырак | 5,6% |
| Абадочнай кішкі | 5,5% |
| Рота і глоткі | 5,1% |

Паводле Белканцэр-рэгістра “Статыстыка анкалагічных захворванняў”, Мінск, 2013.

ШКОЛА

# “Хачу хутчэй надзець сарафан і пайсці ў школу!”

**МАЛАДЗЕЧНА. На тварах бацькоў – хваляванне, у руках дзяцей – кветкі, а ад беласнежных бантаў мільгае ў вачах. 1 верасня прайшлі першыя ў новым навучальным годзе ўрачыстыя лінейкі.**

У гімназіі №3 прагучаў першы званок. За парты селі 32 першакласнікі.

Настаўніцу не палохае, што ў класе будзе шмат дзяцей.

– Яны ўжо амаль калектыў, многія хадзілі на падрыхтоўчыя заняткі, – кажа настаўніца пачатковых класаў **Алена Шалкоўская**. – Некаторыя ўжо ўмеюць трохі чытаць, але ўсё адно цяпер з дзецьмі працаваць цяжэй, чым 20 год таму. Бацькі мала часу ўдзяляюць дзецям, дазваляюць глядзець фільмы, да якіх яны яшчэ не дараслі.

З букетамі кветак і з сумнымі вачамі сустракалі 1 верасня і адзінаццацікласнікі, для якіх першы званок прагучаў у апошні раз. Сёлета іх у гімназіі 22 чалавекі.

Пазітыўным настроем з дзецьмі дзяліліся Бураціна, Чырвоная шапачка і Старая Шапакляк, якія падтрымалі першакласнікаў.

– Хачу хутчэй надзець сарафан і пайсці ў школу! – з такімі словамі збіралася на лінейку першакласніца **Паліна Шпакоўская**. Але лінейка чаканні не апраўдала.

– Старая Шапакляк была не падобная, таму што нос у яе кароткі, а ў мульціку доўгі, – распавядае пра свае ўражанні Паліна. – А яшчэ Бураціна больш падобны на снегавіка. Добра, што ведаю шмат аднакласнікаў – Ксюшу, Захара, Леру. Настаўніца сказала, што заўтра ўжо будзем маляваць, але не сказала што.

– Заўтра ўжо пойдзем у школьную сталовую, – працягвае першакласніца. – Хочацца хутчэй пакаштаваць школьнай ежы.

Павіншавалі з першым званком гімназістаў і дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі **Сяргей Бартош**.

Пасля святочнай лінейкі дзеці пабывалі на сваім першым уроку, які быў прысвечаны ўспамінам пра Другую сусветную вайну. А адзінаццацікласнікі і першакласнікі пайшлі выпускаць на шчасце галубоў.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**



Фота Вольгі ЮРКЕВІЧ.

Першакласніца Паліна Шпакоўская на лінейцы ў гімназіі №3 у Маладзечне.

# Пачатак навучальнага года прывіталі святам

**МЯДЗЕЛ. У райцэнтры 29 жніўня прайшло раённае свята “Прывітанне, школьная пара!”.**

Удзел у ім прынялі вучні з розных школ раёна і мядзельская дзятва.

З-за непагадзі мерапрыемствы перанеслі з амфітэатра і суседняй плошчы ў Дом культуры. Тут праходзіла канцэртная праграма. Узнагародзілі мядзяльчан, якія працавалі на археалагічных раскопках на паўвостраве Замак у райцэнтры.

Адбываліся майстар-класы. На іх дзяцей вучылі ствараць вырабы з салёнага цеста, нітак ды іншага матэрыялу. Маглі яны паўдзельнічаць у літаратурным лато, паспяваць у караоке, паскладваць пазлы.

У фізкультурна-аздараўленчым цэнтры і гімназіі-інтэрнаце прайшлі спартыўныя спаборніцтвы і гульні.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Ала і Жэня са Смаргоні ў дзень вяселля вырашылі прыехаць менавіта ў Залессе. Такая практыка становіцца папулярнай: маладыя атрымоўваюць чароўныя здымкі, а гасцей падчас фотасесіі могуць заняць экскурсіяй.

СПАДЧЫНА

# Маёнтак Агінскіх прымае першых гасцей

**СМАРГОНЬ. Хаця да афіцыйнага адкрыцця яшчэ тры тыдні, маёнтак ужо расчыніў дзверы для ахвотных трапіць на экскурсію ці зладзіць вясельную фотасесію.**

Тое, што Залессе ажывае, карэспандэнты "РГ" пабачылі нават у будні дзень: паглядзець на прыгажосць унутры будынка прыходзяць мясцовыя жыхары, у шлюбны сезон фатографы прапануюць рабіць здымкі менавіта тут.

Так і маладыя Ала і Жэня пазіруюць на фоне яблыневага саду, альтанкі, мастка і адноўленага маёнтка.

– Тут вельмі прыгожа, – тлумачаць яны. – Таму і вырашылі пасля ЗАГСа заехаць у Залессе.

Госці таксама не губляюць часу дарма – робяць фота самі сабе, гучна весяляцца.

## Пераначаваць у Агінскага зможа кожны

Нас сустракае дырэктар музея-сядзібы Міхала Клеафаса Агінскага **Людміла Градзіцкая**. У маёнтку ўжо працуе актавая зала, з якой пачынаюцца экскурсіі. Цяпер там ёсць сцэна з раялем, новы паркет, утульныя крэслы, белыя фіранкі.

– Маёнтак абноўлены ўжо на 95%, – распавядае Людміла Градзіцкая. – Маем надзею, што ў наступным годзе ў нас напоўніцу запрацуе музей. Таксама адчынім зімовы сад, дзе мы будзем вырошчваць тыя расліны, што ўпрыгожвалі будынак пры Агінскім.

Улетку расліны плануюць выстаўляць на вуліцу, а зімой – хаваць у аранжарэю.

У маёнтку будзе і гасцініца, дзе змогуць спыніцца турысты. Дзевяць месцаў у аднапакаёвых нумарах запрацуюць пасля таго, як канчаткова здадуць маёнтак. У колькі абыдзецца адна ноч у доме Агінскага, пакуль невядома.

**Экскурсіі ў Маёнтку Агінскіх праводзяць двойчы на дзень. У 11 гадзін наведнікам прапануюць яшчэ паглядзець фільм Анастасіі Мірашнічэнкі "Рана ў сэрцы". У 15 гадзін прапануюць оперу Алега Залётнева "Невядомы партрэт". Білет для дарослых каштуе 10 тысяч рублёў, для школьнікаў і дзяцей – 5 тысяч. Выхадныя – панядзелак, аўторак.**

У старым млыне плануюць пазней адкрыць кавярню. Сцэны будынка выдатна захаваліся. Яны выглядаюць надзвычай эфектна, таму што зробленыя з вялікіх камянёў. Гэта надасць кавярні асаблівую атмасферу.

У парку турысты знойдуць гістарычныя аб'екты: альтанку Амеліі, названую ў гонар дачкі Агінскага, альтанку ў кітайскім стылі, масткі. Некаторыя аб'екты захаваліся горш і не выглядаюць настолькі ж абноўленымі, як сам маёнтак.

Частка маёнтка адведзеная пад музей, яго паступова папаўняюць рэчамі, якія змогуць паглыбіць уражанне ад экскурсіі. Некаторыя экспанаты ўжо чакаюць свайго часу. Напрыклад, карта Залесся часоў Рэчы Паспалітай.

Зімой у маёнтку плануюць выступленні залескай батлейкі.

## Маёнтак абнавілі за тры гады

Па словах дырэктаркі, над абнаўленнем маёнтка працавалі работнікі смаргонскага будаўнічамантажнага трэста №41, а таксама рэстаўратары з Мінска. Праект доўжыўся амаль тры гады.

Навуковым кіраўніком праекта з'яўляецца дырэктар музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры **Зінаіда Кучар.**

Кожную суботу ў маёнтку ладзяцца суботнікі, да якіх могуць далучацца ўсе ахвотныя.

**Стаць валанцёрам і дапамагчы добраўпарадкаваць маёнтак Агінскіх у Залессі можа кожны. Ахвотныя збіраюцца а 9 гадзіне кожную суботу.**

## У маёнтку будуць вакансіі

Мясцовыя людзі ўжо даўно чакаюць, калі запрацуе маёнтак, бо тады з'явяцца новыя працоўныя месцы.

– Вядома, вакансіі будуць, – гаворыць дырэктар. – Але ж трэба, каб чалавек адпавядаў вакансіям, калі ён будзе працаваць у навуковым штаце ці гасцініцы. Пакуль у штаце толькі дворнік і я.

Залессе стане часткай беларуска-літоўскага турыстычнага маршруту. Траса злучыць мясціны, звязаныя з культурнымі цэнтрамі рэгіёна: маёнтак Міхала Агінскага ў Залессі і Юзафа Тышкевіча ва Ужутракісе. Цягам апошніх двух гадоў над праектам працавалі дырэкцыя Тракайскага гістарычнага нацыянальнага парку і Смаргонскі райвыканкам.

– Хочацца, каб усё тут было менавіта так, як пры Міхале Агінскім, – дадае Людміла Градзіцкая. – Каб зноў можна было назваць Залессе месцам для згуртавання аматараў музыкі.

Маёнтак стане не толькі турыстычным аб'ектам, але і культурным цэнтрам, дзе будуць ладзіцца музычныя мерапрыемствы.

**Зоя ХРУЦКАЯ, Аляксандра ПАРАХНЯ.**

**Больш фота і схему маёнтка глядзіце на сайце**

Rh.by

## Маёнтак адкрыюць канцэртам аркестра Фінберга

– Афіцыйнае адкрыццё маёнтка будзе 25 верасня, – кажа **Тацяна Ражава**, намесніца загадчыка аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Смаргонскага райвыканкама. – Магчыма, да таго часу будзе гатовая і гасцініца.

На адкрыцці гасцей чакае выступленне Нацыянальнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, а таксама экскурсія.

Пасяджэнне раённага і абласнога кіраўніцтва наконт маёнтка Агінскага пройдзе ў пятніцу, 5 верасня. На ім вырашаць пытанні фінансавай падтрымкі заключнай часткі абнаўлення.

КУЛЬТУРА

# Буккросінг па-вілейску: гараджане пускаюць у падарожжа кнігі, часопісы і дыскі

**ВІЛЕЙКА. Куточак для буккросінгу ў гарадскім філіяле 1 раённай цэнтральнай бібліятэкі імя Ганны Новік з'явіўся ў 2011 годзе.**

– Тады пра гэту з'яву шмат пісалі. Паведамлялі, што ў гарадах кнігі пакідаюць у кафэ, на вуліцах, – прыгадвае загадчыца філіяла **Галіна Ражко**. – І мы вырашылі зрабіць нешта падобнае. Хай і не зусім правільна, як гэта трэба: зыходзілі з нашых магчымасцяў.

Прыкладам, звычайна ў буккросінгу кнігу рэгіструюць на сайце і наклейваюць паперку з нумарам, па якім потым адсочваюць яе шлях. А ў Вілейцы да кніг прымацавалі знак з назвай бібліятэкі. Калі каму сустрэнецца, каб ведалі, адкуль яна.

Адразу супрацоўнікі ўстановы свае асабістыя кнігі прынеслі. Напачатку іх было 88. У калідоры філіяла (размешчаны ён у Палацы культуры) зрабілі стэлаж. Змясцілі інфармацыю і знак буккросінгу, паставілі лаву, стол.

– Галоўнае, што чытачам гэтая ідэя падабаецца. Яны і бібліятэчныя кнігі бяруць, і ідуць да гэтага стэлажа – паглядзець, што новага ёсць, – расказвае Галіна Ражко. – Даспадобы ім буккросінг сваім сэнсам: "Хачу – вяртаю кнігу, хачу – не, хачу – каму дам пачытаць". Многія чытачы далучыліся, свае кнігі прыносяць. Зараз больш нават пакідаюць кніг, чым забіраюць.

**Бывала, што колькасць кніг на стэлажы даходзіла да 250 экзэмпляраў.**

Завітваюць і тыя, хто ні разу не быў у бібліятэцы. Прыносяць кнігі менавіта для буккросінгу.

Апроч мастацкіх кніг, на стэлажы з'яўляецца галіновая літаратура, падручнікі. І сучасныя кнігі пакідаюць. "Мы ў сям'і прачыталі, што яны будуць стаяць. Хай людзі чытаюць", – кажуць. Прыносяць літаратурна-мастацкія часопісы: "Полымя", "Раман-газета".

Віляйчане нават развілі ідэю буккросінгу: хтосьці дыскі з гульнямі для камп'ютараў прынёс. Разышліся хутка.

А 2 ліпеня гараджане маглі далучыцца да буккросінгу на свяце вуліцы Савецкай. Гэта пастараліся супрацоўнікі раённай цэнтральнай бібліятэкі імя Ганны Новік. І ахвочых узяць з сабою кнігу хапала.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ". Буккросінг** – гэта сусветны рух, сэнс якога ў свабодным падарожжы кніг ад аднаго чытача да другога. Чалавек, які прачытаў кнігу, пакідае яе ў грамадскім месцы, каб іншы чалавек мог гэту кнігу знайсці і прачытаць. Той у сваю чаргу павінен паўтарыць гэты працэс.




Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**Віляйчан цікавіў буккросінг на свяце вуліцы Савецкай.**

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | |
|---|---|
| Астравец | - 01591. |
| Ашмяны | - 01593. |
| Валожын | - 01772. |
| Вілейка | - 01771. |
| Маладзечна | - 0176. |
| Мядзел | - 01797. |
| Смаргонь | - 01592. |



## ВІНШАВАНКА

**З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ, СЫНОК!**
**Аляксею Вячаслававічу Карнею з Маладзечна!**



*С днем рождения поздравляю,*
*Счастья, радости желаю.*
*Сорок лет, совсем пустяк,*
*Веха жизни, как бы так.*
*Жизнь проходит – не беда,*
*Ведь любовь с тобой всегда.*
*Вера силы придает*
*От беды освобождает.*
*Верь, люби и не грусти –*
*Счастье встретится на пути.*

**Заўсёды з любоўю, твой тата**



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі-80 B3 1986 г.в. 1,8 бензін, добры тэхнічны стан, 3500 у.а. торг. Т. (8-029) 3917151.

• Аўдзі-80 1986 г.в., 1,6 Д с дэфектамі. Т. МТС + 375336633960, Вэлком + 375447833960.

• БМВ-520 2002 г.в. Т.(8-029)6521625.

• ВАЗ-21061, 1990 г.в., у добрым стане. Т.( 8-029)6017936.*

• ВАЗ-2108 , 1987 г.в., 500 у.а.,Т. (8-029) 8754074.

• Вольва-940, 2,4 ТДІ, люк, падагрэў сядзенняў, бардовы колер, у выдатным стане.Т. МТС (8-029) 7762833.

• Гольф-1, 1,6Д па запчастках. Т. (8-029) 1337681, (8-029) 5662873.

• Мазда-626, 1997 г.в., 1,8 газ-бензін, 4000 у.а., торг пры аглядзе. Т. (8-044) 7589904.

• Мерседэс-201, 2,0 дызель, белы, добры стан, 2400, торг, Т. (8-029) 8330875.

• Опель Астра, 1997 г.в.1,4 бензін, механіка, універсал, белы, торг. Т. (8-029) 9497393 Вілейка.

• Опель-Зафіра 1,8 Б , чорны, 2010 г.в., 5850 еўра. Т. Вэлком (8-029) 6560483.*

• Опель-Кадэт, 1990 г.в. па запчастках. Т. (8-029) 7736525.*

• Опель-Рэкорд, 1985 г.в. па запчастках. Т. (8-025) 6549399.*

• Опель-Астра, універсал, 1997 г.в., 1,7 ТД,, без праблем, 3980 у.а., торг, Вілейка. Т. (8-033) 6611526.

• Опель-Вектра B , зялёны, 1998 г.в., аб’ем 1800, бензін, Т. (8-029) 3262613

• Опель-Зафіра, 2000 г., дызель, чорны металік, у добрым стане. Т.(8-029) 5098094.

• Опель-Корса, 1,5Д, 5-дзверны, бардовы, 1994 г.в. 3150 у.а., торг, Т. (8-029) 9563952, (8-029) 9563951 Вэлком.

• Пасат Б-6, седан, 1,8 Б, серабро, 2010 г.в., 5900 еўра. Т. Вэлком (8-029) 6560483.*

• Пежо-306, чорны, дызель, 2001г. аб’ем 1900.

• Пежо-Партнёр, 2005 г.в., 1,9 Д, 190871 км прабегу, белы, новыя шыны, ёсць невялікія ўвагнутасці на кузаве, 5800 у.а., торг. Т. (8-029) 1416229, (8-029) 8722166.

• Пежо-106, 1993 г.в., 1,1 Б, 2400 у.а., торг. Т. (8-029) 5689182.

• Пежо-305, 1987 г.в., 1,9 Д, універсал ці па запчастках; ФВ Т-2, 1990 г.в., 1,6 Д па запчастках. Т. (8-029) 6941672.*

• Ровер-45, 2001 г.в., 1,8 Б, хэтчбэк, цёмна-сіні. Т. (8-029) 8708089.*

• Рэно-Лагуна, 2003 г.в., 1,9 ДСІ, універсал, блакітны металік, 7500 у.а., торг, абмен. Т. (8-044) 7579805.*

• Рэно-Лагуна, універсал 1996 г.в. 2,2 Д, серы мет. , ц/з, сігналізацыя, 3650 у.а. Т. (8-029) 6314981.

• Рэно Меган, 2002 г.в., 1,6 бензін, серабрысты металік, хэтчбэк, выдатны стан, 6500 у.а., торг. Т. (8-033) 6039655 Вілейка.

• Сеат-Альхамбра 1997 г.в. 1,9 ТДІ, зялены, добры стан, торг, 7500 у.а. Т. (8-029) 1121857.

• Сітраэн-Ксантыя, 1996 г.в., 1,8, 16 V 3100 у.а., без гандлю, тэрмінова Т. (8-033) 6009454

• Сітраэн-Берлінга, 2010 г.в., 1,6 бензін, 50 тыс.км прабегу. Т. (8-029) 6358313.

• Сітраэн-С4, 2009 г.в., 1,6 НДІ, шэры, АКПП, хэтчбэк, 11500 у.а. Т. (8-029) 5506895, (8-029) 9444311.*

• Таёта-Карына-2, 1991 г.в., Д, седан, металік, магчымы крэдыт або абмен, 2100 у.а. Т. (8-044) 7675581.*

• ФВ-Гольф-2, 1,6 бензін, цёмна-сіні, 1400 у.а., торг. Т. (8-029) 8112955.*

• ФВ-Гольф-3, 1998 г.в., 1,9 ТДІ, універсал, белы. Т. (8-029) 5047466.*

• ФВ-Джэта 1984 г.в., белы, газ-бензін, 4 МКПП, тэрмінова Т.(8-029)8566694.

• ФВ-Каравэла Т4, 2,5 ТДІ, аўтамат, кандыцыянер, вебаста, 170000 км. Т. (8-033) 3341100.*

• ФВ-Пасат Б-3, 1989 г.в., бежавы металік, 1,6 мона, у добрым стане, 2950 у.а. Т. (8-029) 2721808.

• ФВ-Пасат Б-4, 1993 г.в., 1,8 мона, седан, сіні, 4100 у.а. Т. (8-029) 1246063.

• ФВ-Шаран, 1997 г.в., 2,0 газ-бензін, добры стан, 7500 у.а., торг. Т. МТС (8-029) 7005148.

• Фіят-Добла, 2009 г.в., 1,4 бензін, кандыцыянер, сігналізацыя, 80000 км. Т. (8-033) 3341100.*

• Форд-Мандэа 1998 г.в. 2,0 бензін, універсал , зялёны, выдатны стан., 4650 у.а. торг .Т. (8-029) 3107973.

• Форд-Эскорт, 1991 г.в., 1,8 дызель, чорны, 2100 у.а. Т. МТС (8-033) 3500310.*

• Форд-Мандэа III , 2001 г.в., 2,0 турбадызель, седан, цёмна-сіні, добры стан, ланцуговы рухавік, кандыцыянер, л/д, 7100 у.а., торг. Т.(8-029) 2783370.

• Форд-Эскорт, 97 г.в., 1,8і, цёмна-сіні, хэтчбек, 2700 у.а. Т. (8-029) 1045237.

• Форд-Эскорт, 98 г.в., універсал, 3700 у.а. Т.МТС (8-033) 3086067.

• ФВ-Пасат B3, 92 г.в.., 1,9 Д, універсал, цёмна-сіні металік. Т. (8-029) 5005155.

• Форд Сіера, бензін, ад 1000 у.а. Т. (8-029) 5615614 Маладзечна.

• Хундай-Акцэнт 1999 г.в. 1,5 газ-бензін, падагрэў пярэдніх сядзенняў, цёмна-сіні, хэтчбэк. Т. (8-029) 8555279.*

• Хундай-Туксон 2005 г.в. 2,0 CRDI зялёны металік, у выдатным стане, усе ёсць. Т. (8-029) 7670805.*

• Гума б/у 225х60х16 – 2 шт. Нядорага. Т. (8-029) 6314981.

• Гума дыяметрам 16, 205х65, С. Т. (8-029) 7653562.

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО (У Т.Л. ВАЗ); КРЫЛЫ, КАПОТЫ, ПАРОГІ, РАМ. УСТАЎКІ АРАК І ІНШЫХ ЧАСТАК КУЗАВА. А ТАКСАМА ЛЮСТЭРКІ, ГЛУШЫЦЕЛІ, БАМПЕРЫ, ПАДКРЫЛКІ І ШМАТ ІНШАГА.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Матацыкл “Мінск”, у рабочым стане, з дакументамі. Т. (8-029) 7617385.

• Прычэп да л/а (без дакументаў). Т. (8-029) 6017936.*

• Скутар HORS054. Т. МТС (8-029) 7724958.*

• Скутар. Т. (8-029) 7043970.*

### КУПЛЮ

• **А/М** у любым стане, можна мікрааўтобус, грузавік, трактар, пагрузчык. Т. (8-029) 5524004.*

• А/м у любым стане. Дорага. Т. Лайф (8-025) 9378887.*

• **А/М, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• Аўто 1984-2005 г.в. у любым тэхнічным стане, аварыйнае ці на запчасткі. Т. (8-029) 2635648.*

• **АЎТО, МОЖНА З ПРАБЛЕМАМІ. Т. (8-029) 7649185, (8-029) 9496581.***

• **АЎТО, ХУТКА, ВЫЕЗД. Т. (8-029) 7652832, (8-029) 9496492.***

• Іншамарку за 3000 у.а. Т. (8-029) 3856049.*

• Любое аўто, любой маркі і мадэлі, любога года выпуску, з любымі праблемамі, можна на запчасткі. Т. (8-044) 4625799, (8-033) 3825092.*

### ІНШАЕ

• **АЎТАРАЗБОРКА НЯМЕЦКІХ І ФРАНЦУЗКІХ** аўто. Вялікі выбар. Гарантыя, на запчасткі. г.Ліда. Дастаўка ў Маладзечна. ІП Малец П.Н. УНП 591319307. Т. (8-029) 9289224, (8-029) 7417597, (8-033) 3761764.*

• **АЎТАРАЗБОРКА: РЭНО, ПЕЖО, СІТРАЭН. ВЯЛІКІ ВЫБАР Б/У ЗАПЧАСТАК, НІЗКІЯ ЦЭНЫ, ГАРАНТЫЯ,** Маладзечна, вул.Маладзёжная, 10. ІП Еўдакіменка Д.І. УНП 191984027. Т. (8-044) 7149298, (8-029) 8628501.*

### ПАСЛУГІ

• Паслугі міні-экскаватара, міні-пагрузчыка, колавага экскаватара, трамбовачнікі, усе віды земляных работ. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9098949.*

• Арэнда самазвалаў МАЗ 20 тон і 10 тон (дастаўка пяску, шчэбеню, асфальту, вываз смецця), франтальнага пагрузчыка ТА-18, поўнапаваротнага экскаватара, (0,85 куб. м), экскаватара-пагрузчыка, гусенічнага экскаватара, увесь комплекс земляных работ. ТАА “Матэк Про”. УНП 695501712. Т. (8-029) 3622022, (8-033) 6686871.*

• Міні-экскаватар, траншэі пад ваду, газ, падмурак. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

• **РАМОНТ ТУРБІН.** ТАА “Турбацэнтр”. УНП 191531213. Т. (8-029) 7639480, (8-044) 7639480.*

• **ЭКСКАВАТАР-**ПАГРУЗЧЫК, **ТРАНШЭІ**, **КАТЛАВАНЫ**, **ПЛАНІРОЎКА**, **ПАГРУЗКА**. ІП Грычанаў Д.Г. Т. (8-029) 5045554.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. МТС (8-029) 8551061.

• 2-пакаёвая кватэра ў аграгарадку Любань Вілейскага р-на Т. МТС (8-033) 6656099.

• 2-пакаёвая кватэра ў Беразінскім. Т. МТС (8-029) 8748175.

• 2-пакаёвая кватэра ў цэнтры Смаргоні, 50/29,8/8,5 кв.м, с/в раздзельны, 3/5 пав., еўрарамонт, чысты продаж, торг. Т. (8-029) 6712785.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 5725805.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. Вялікі Гасцінец,111. Аг. плошча 67 кв. м, 8 паверх Т. (8-029) 1795277, (8-029) 7081438*



## Прыём дробных аб’яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап’янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб’явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*



Фота voiichitza.livejournal.com.

На адкрыццi пляцоўкі, якое прайшло 26 ліпеня, майстры воркаўту натхнялі мясцовых хлопцаў і дзяўчат на спартыўныя дасягненні.

ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

# Смаргонцы ў сваім двары робяць ідэальныя фігуры

## Першая пляцоўка для воркаўту ў рэгіёне збірае і дзяцей, і дарослых

**СМАРГОНЬ. Гарадскі двор, поўны людзей, якія займаюцца спортам, – цяпер звычайная з'ява для Усходняга мікрараёна. Месяц таму тут з'явілася другая ў Беларусі пляцоўка для воркаўту.**

Першая пляцоўка знаходзіцца ў Мінску, трэцюю будуць адкрываць 6 верасня ў Бабруйску.

### Пляцоўка каштавала 220 мільёнаў рублёў

Воркаўт (workout) – новы від спорту для Беларусі. Гэта практыкаванні па фізічным развіцці ў вулічных умовах. Вага ўласнага цела выкарыстоўваецца для трэніровак на спартыўных пляцоўках і іншых гарадскіх аб'ектах.

Развіццём воркаўту займаецца агульнабеларуская Федэрацыя "Street Workout" і кампанія "Кока-кола" пры падтрымцы Беларускага дзіцячага фонду. У Смаргонскім раёне ініцыятыву падтрымлівае мясцовы райвыканкам.

Першым крокам стала падрыхтоўка пакрыцця, якая ішла два тыдні. Спецыяльнае гумавае пакрыццё засцерагае ад траўмаў. Гарантыя – дзесяць гадоў. Яно вытрымлівае і спёку, і маразы.

– У нас ідзе капітальны рамонт усяго двара, у якім з'явілася пляцоўка, таму пакрыццё мы ўключылі ў план, – кажа **Дзмітры Станкевіч**, дырэктар камунальнага прадпрыемства "Жыллёвая рамонтна-эксплуатацыйная служба Смаргонскага раёна". – Уся пляцоўка абышлася ў 220 мільёнаў рублёў.

Наступны крок – усталяванне турнікоў, якое заняло яшчэ два дні. Прадстаўнік федэрацыі "Street Workout" **Сяргей Дзятко** працаваў над планам пляцоўкі і размяшчэннем турнікоў.

### Пляцоўка збірае моладзь

Усходні мікрараён лічыцца спальным. Двор, у якім з'явілася пляцоўка, – адзін з самых вялікіх: ён аб'ядноўвае жыхароў 380 кватэр. У суседнім двары – яшчэ каля 340 кватэр. Але каб патрэніравацца, сюды едуць з усяго горада.

Па словах мясцовых жыхароў, пляцоўка не пустуе, асабліва ўвечары.

– Пляцоўка выдатная! – дзеліцца ўражаннямі мясцовая жыхарка **Юлія Жданюк**, якая разам з сям'ёй адпачывае ў двары. – Паболей бы такіх! Старэйшая дачка тут пастаянна займаецца. Моладзь хоць не будзе па падваротнях блытацца.

Тэрыторыя вакол антыўдарнага пакрыцця пакуль прысыпаная пяском. У планах ЖРЭСа – пабудаваць тут дзіцячую пляцоўку, каб адпачываць у двары можна было ўсёй сям'ёй. На яе выдзяляць 120 мільёнаў рублёў з бюджэту.

– Такімі комплексамі могуць ганарыцца толькі новыя сталічныя двары, – кажа Дзмітры Станкевіч. – Так што прыязджайце да нас трэніравацца і адпачываць!

– У нашым раёне аматараў воркаўту пакуль няшмат – каля 30 чалавек, – кажа студэнт **Аляксей Мычко** са Смаргоні, які займаецца воркаўтам ужо тры гады. – Пасля таго, як з'явілася пляцоўка, цікавасць да спорту ўзрасла. Асабліва шмат дзяцей праводзяць тут выхадныя і вечары.

### Віяланчэлістка займаецца воркаўтам

Ёсць сярод смаргонскіх аматараў воркаўту і дзяўчаты. **Ліза Глябовіч** зацікавілася новым відам спорту пасля адкрыцця пляцоўкі, хаця і вучыцца ў музкаледжы па класе віяланчэлі.

– Воркаўт лічыцца больш мужчынскім спортам, але дзяўчаты ў ім таксама дабіваюцца добрых вынікаў, – дадае Аляксей. – З Лізай мы займаемся рэгулярна і верым у яе поспех.

Многія спартсмены асвойвалі воркаўт самастойна. У Смаргоні пачыналі з трэніровак на школьных стадыёнах, хаця яны не заўсёды падыходзяць для прафесійных заняткаў.

Цяпер спартсмены з досведам гатовыя дапамагчы пачынаючым.

– Нас лёгка знайсці праз сацыяльныя сеткі, дзе мы і дамаўляемся аб месцы і часе трэніровак, – гаворыць Аляксей. – Працуем над тым, каб распаўсюджваць воркаўт як мага шырэй. Напрыклад, не так даўно выязджалі ў Солы і правадзілі заняткі для мясцовай моладзі.



Фота Зм. ХРУЦКАЙ.

Дзмітры Станкевіч.



Фота з асабістага архіва Аляксея МЫЧКО.

Аляксей Мычко.

### Можна ладзіць спаборніцтвы

Аляксей хутка развеывае асцярогу наконт таго, што пляцоўка будзе пуставаць узімку.

– Я сам пастаянна займаюся зімой. Галоўнае – цёпла апранацца і добра размяць мышцы перад трэніроўкай! – кажа спартсмен.

Ён упэўнены, што ў воркаўту ёсць перспектывы ў нашым рэгіёне. Не абавязкова станавіцца прафесіяналам, але чаму б не выкарыстоўваць зручную пляцоўку для падтрымання фізічнай формы? Гэта зможа аздаравіць не толькі канкрэтнага чалавека, але і атмасферу ў двары.

– Ні разу не бачыў, каб на нашай пляцоўцы пілі піва, – дзеліцца назіраннямі Аляксей. – Наадварот, калі чалавек хоча закурыць цыгарэту, ён бачыць, што тут трэніруюцца, і адыходзіць.

У планах смаргонскага ЖРЭСа – адкрыць яшчэ тры пляцоўкі ў Смаргоні, па адной на кожны мікрараён.

Прадстаўнікі федэрацыі "Street Workout" паабяцалі: калі ў горадзе з'явіцца яшчэ адна пляцоўка, тут будуць ладзіць рэгіянальныя спаборніцтвы.



Аляксандра ПАРАХНЯ
E-mail: alesia.ptushka@gmail.com

ГУРТКІ І КЛУБЫ

# Чым заняць сябе ў вольны час

**МАЛАДЗЕЧНА. ВІЛЕЙКА. Штогод у верасні аб'яўляецца набор у гурткі і клубы. Карэспандэнты "РГ" пералічылі некаторыя бясплатныя гурткі ў Маладзечне і Вілейцы.**

**МАЛАДЗЕЧНА.** Сёлета дзіцячы цэнтр культуры "Расток" запрашае на заняткі ў студыі розных напрамкаў. Можна навучыцца камп'ютарнай графіцы і дызайну.

Народная мастацкая студыя "Чароўная палітра", студыя камп'ютарнага дызайну, вакальны калектыў "Талака", народны тэатр гумару "Тары-Бары", студыя "Лялечны тэатр", харэаграфічная студыя "Вяснушкі", студыя дызайну "Утульнасць", студыя мастацкага афармлення вырабаў "Умелыя ручкі".

Працягваецца таксама набор ў фальклорнае аб'яднанне "Беларуская спадчына", клуб беларускай гульні "Весялінка", музычна-паэтычны клуб "Вытокі", краязнаўчы клуб "Беларуская хатка", студыю гітарковага жанру, студыю харэаграфіі "Серпанцін", ва ўзорную студыю эстрадных спеваў "Брава".

Дзяцей прымаюць рознага ўзросту, у некаторыя гурткі – ад шасці гадоў, у некаторыя – ад сямі, а ёсць гурткі, дзе прымаюць і дарослых.

Адрас: **Маладзечна, вуліца К.Буйло, 1**. Тэлефоны для даведак: **76-42-46**, **74-60-81**.

**ВІЛЕЙКА.** У гэтым навучальным годзе ў раённым цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі будуць працаваць гурткі па наступных накірунках:

- фізкультурна-спартыўныя;
- тэхнічная творчасць;
- дэкаратыўна-прыкладная творчасць;
- эколага-біялагічны;
- мастацкая творчасць;
- турысцка-краязнаўчы;
- культурна-забаўляльны;
- натуральна-матэматычны.

Працягнуць працу восем клубаў. Гэта турысцкі клуб "Чарапашкі", "Піянерская садружнасць", для дзяцей і падлеткаў "Дзверы", інтэлектуальных камандаў "Бронзавая Сава", для дзяцей-інвалідаў і іх бацькоў "100 сяброў", выхаднога дня "Арт-гасцёўня", спартыўны клуб "Грацыя", літаратурна-асветніцкае аб'яднанне "Світанак".

Адрас: **Вілейка, вул. Савецкая, 54**. Тэлефоны для даведак: **54-3-75**, **56-8-32**.

**Вольга ЮРКЕВІЧ, Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Лепшыя сем'і Міншчыны пачаліся з рок-канцэрта і вясковых танцаў

**У сераду, 27 жніўня, прайшоў абласны конкурс "Лепшая сям'я Міншчыны". З нашага рэгіёна ўдзельнічалі дзве сям'і – Дабрыніных з Маладзечна і Таўстыкаў з Вілейкі. Першую з іх прызналі самай знаходлівай, другую – самай творчай.**



Фота забяспечана Вольгай ДАБРЫНІНАЙ.

Сям'я Дабрыніных (Кірыл, Вольга, дзеці Яраслаў, Ліза) адпачывае разам.

**МАЛАДЗЕЧНА.** Сям'і Дабрыніных паўдзельнічаць у конкурсе прапанавала дырэктар маладзечанскай гімназіі №6 **Ала Ярашэвіч**. Сын Яраслаў загарэўся гэтай ідэяй, прыдумаў песню на беларускай мове. У ёй падкрэсліў нешта асаблівае ў кожным чалавеку з сям'і.

Працавітасць бацькі дзеля сям'і, прага маці да ўтульнасці, руплівасць сябе да вучобы, "крутасць" сястры **Елізаветы**, якую баяцца хлопцы.

Відэаролік здымаў **Андрэй Малько**, рэдагаваў гук **Аляксандр Усовіч**.

## Заўважылі адзін аднаго праз два гады вучобы

Кірыл і Вольга Дабрыніны пазнаёміліся ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце. Вучыліся на адным курсе. Аднак разгледзелі адзін аднаго на другі год вучобы.

Першым крокам стала запрашэнне Кірыла на канцэрт групы "Чайф". Вольга пагадзілася, хаця не ведала іх песень. Падрыхтавалася да гэтага мерапрыемства грунтоўна – апранула вячэрнюю сукенку.

– На канцэрце я выдзялялася з натоўпу, – гаворыць Вольга. – Усе ў джынсах, майках, адна я ў сукенцы, ды яшчэ і ў вячэрняй.

## Палярнарозныя муж і жонка

Калі закаханыя былі на чацвертым курсе, бацькі пачалі пытацца пра вяселле. І Кірыл зрабіў прапанову.

Хаця прызнаюцца, што яны палярнарозныя. Вольга – спакойная, дамашняя, сама сябе яна называе стрымліваючым фактарам. Кірыл заўсёды некуды спяшаецца, як ён сам сябе характарызуе: "Я заўсёды ў палёце".

## Дзень нараджэння на роварах

Сям'я Дабрыніных многа падарожнічае, катаецца на каньках, лыжах. Дзень нараджэння бацькі яны адзначылі ў Мінску, падарожнічаючы на роварах.

Дзеці ў гэтай сям'і творчыя: Яраслаў самастойна навучыўся іграць на гітары, Ліза добра малюе.

**Галіна СІНІЦА.**

# Рэцэпт поспеху: стварыць сямейнае трыа

**ВІЛЕЙКА.** Няма нагоды здзіўляцца, што сям'я Таўстыкаў стала самай творчай у абласным конкурсе.

**Казімір** – часты ўдзельнік розных канцэртаў. А ў апошнія гады ўсё часцей на сцэне можна бачыць сямейнае трыа Таўстыкаў. Спяваюць у ім бацька і дзве дачкі – **Ангеліна** (16 год) і **Валерыя** (13).

Вось і на гэтым конкурсе віляйчане зрабілі стаўку на вакальныя таленты. І не памыліліся.

## Сустрэліся на вясковых танцах, дзе іграў Казімір

**Наталля** і Казімір сустрэліся на танцах у Каралеўцах на Вілейшчыне. Казімір, як кажа, "па маладосці" тут на танцах вясковых іграў. А Наталля, яна з Магілёва, прыехала да бабулі.

Пасля знаёмства гады два прайшло – і пабраліся шлюбам. Казіміру тады было 20 гадоў, Наталлі – 18.

Цяпер сям'я Таўстыкаў жыве ў сваім доме ў Вілейцы. Разам з імі – бацькі Наталлі.

Ля дома свой сад, дагледжаны падворак.

– Люблю, каб добра і прыгожа вакол было, – кажа Казімір. – Падабаецца сваімі рукамі ўсё рабіць.

А жонка па гаспадарцы завіхаецца: агарод, парнік. Дочкі ж – маме дапамагаюць. Ну і музыкай, вядома, захапляюцца.

## Сам сабе рэжысёр

На конкурсе сям'я паказала тры відэафільмы. Здымалі і мантавалі самі – ды так, што з тэлебачання пацікавіліся: "Хто ж вам фільм рабіў?".

Таўстыкі назбіралі ўжо вялікі сямейны відэаархіў. Яны не проста запісы захоўваюць, а робяць з іх фільмы.

Любяць падарожнічаць, кожны год стараюцца адпачыць на моры. Так, сёлета пабывалі ў Сочы.

А самым важным ў сваёй сям'і яны лічаць згуртаванасць і сяброўства.



Фота забяспечана Казімірам ТАЎСТЫКАМ.

Сям'і Таўстыкаў (Валерыя, Наталля, Казімір, Ангеліна) і хлеб падабаецца пячы свой.

## "Адна зямля" – раз, два, тры?

Казімір Таўстыка ў 2002 годзе ўзяў Гран-пры конкурсу "Адна зямля".

Ангеліна таксама ў гэтым конкурсе паспела паўдзельнічаць. Бацькаў поспех не паўтарыла. Аднак ён лічыць, што ўсё наперадзе: "Я ў іх узросце не рабіў таго, што яны на сцэне могуць".

Можа, хутка і малодшую Валерыю пабачым на "Адной зямлі".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




Фота Святланы ПАТАПЧЫК.

90 хвілін барацьбы на матчы ў Бярозе не прынеслі галоў ніводнай камандзе.

ПЕРШАЯ ЛІГА

# "Смаргонь" падзяліла ачкі з "Бярозай-2010"

**СМАРГОНЬ. У Бярозе 30 жніўня прайшоў матч 18 тура чэмпіянату Беларусі ў першай лізе паміж футбольнымі клубамі "Смаргонь" і "Бяроза-2010". Завяршыўся ён нулявой нічыёй.**

Гэтаму выніку больш радаваліся гаспадары, улічваючы кадравыя праблемы ў складзе.

Першы тайм прайшоў на сустрэчных курсах. Абедзве каманды практычна не стварылі па-сапраўднаму небяспечных момантаў. А другі тайм прайшоў цалкам пад дыктоўку "чырвона-чорных".

Былі магчымасці для ўзяцця варот у **Аляксея Скверднюка**, вельмі небяспечна выконваў штрафныя ўдары **Мікалай Рындзюк**. У цэлым "Смаргонь" хутчэй страціла два ачкі, а гаспадары павінны быць задаволеныя нічыйным вынікам.

У другім тайме **Ігар Жураўлёў** дэбютаваў у складзе смаргонскай каманды ў чэмпіянаце Беларусі, выйшаўшы на замену на 56-й хвіліне.

**Гэты матч быў адметны для варатара "чырвона-чорных" Радзівона Жука. Ён правёў соты матч за ФК "Смаргонь" у чэмпіянатах краіны.**

Вось што адзначыў па заканчэнні матча галоўны трэнер "Смаргоні" **Павел Бацюта**:

– Гульня была складаная. Пасля першага тайма зрабілі некаторыя перастраенні, правялі замены. І другі тайм прайшоў пры нашай перавазе. Але мы не атрымалі выгады з тых галявых момантаў, якія стварылі. У **Мікалая Рындзюка, Паўла Баскакава** былі моманты. Таму асадак ад гульні застаўся, лічу, што мы бліжэй былі да перамогі, чым сапернік.

**– Але саперніка вы ўжо ведалі, і ў першым крузе была цяжкая гульня.**

– Так, мы ведалі саперніка, ведалі, што гэта хуткая каманда, хутка выходзіць у атаку. Мы і будавалі гульню так, каб нас гэтыя моманты не засталі знянацку. І лічу, што тычыцца перастраенняў лініі абароны, мы з гэтым справіліся. Было некалькі выхадаў, але калі ўзяць у цэлым гульню, то тут мы згулялі годна.

**– Каманда цяпер у сярэдзіне турнірнай табліцы. Наколькі гэта месца задавальняе "Смаргонь"?**

– У нас мэта, у першую чаргу, радаваць сваіх заўзятараў і быць вышэй у турнірнай табліцы, чым у мінулым годзе. Гэта значыць, павінны быць на чацвертым-пятым месцы. Але наперадзе яшчэ 12 тураў. І цяпер такая сітуацыя, што будзем імкнуцца да перамогі ў кожным матчы, незалежна ад саперніка – ці на выездзе гульня, ці дома. Сёння таксама гулялі на перамогу, але без забітых мячоў перамог не бывае.

**Уладзімір АМБРАСЕВІЧ, Смаргонь.**

ДРУГАЯ ЛІГА

## ФК "Маладзечна-2013" прайграў "Крумкачу" – 1:4

**МАЛАДЗЕЧНА. Серыя з чатырох перамог для маладзечанцаў перарвалася паражэннем мінскаму "Крумкачу". Матч прайшоў у нядзелю, 31 жніўня, на сталічным стадыёне.**

Першыя галы ў выкананні гаспадароў гледачы пабачылі у канцы першага тайма.

Пазней адзіным голам адзначыліся і маладзечанцы. На 46-й хвіліне гульні мяч у вароты "Крумкачоў" забіў **Андрэй Лявончык**. Ён жа выконваў штрафны кідок на адзінаццатай хвіліне першага тайма, але мяч не патрапіў у вароты.

Футбаліст застаецца самым выніковым у саставе "Маладзечна-2013". На яго рахунку 11 забітых мячоў.

Другі тайм прайшоў паспяхова для саперніка – яшчэ два мячы заляцелі ў вароты маладзечанцаў.

Наперадзе ў ФК "Маладзечна-2013" яшчэ тры гульні. Наступныя дзве пройдуць на дамашнім стадыёне 6 і 13 верасня. Сапернікамі маладзечанцаў будуць адпаведна ФК "Тарпеда" і ФК "Узда".

Апошні матч асноўнай часткі чэмпіянату маладзечанцы правядуць на выездзе ў Кобрыне.

Цяпер ФК "Маладзечна-2013" займае восьмы радок турнірнай табліцы, маючы 25 ачкоў пасля 19 матчаў.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

НАВІНЫ

### Гульца "Смаргоні" выклікалі ў юнацкую зборную

**СМАРГОНЬ. Максім Яблонскі** ўдзельнічае ў вучэбна-трэніровачным зборы юнацкай зборнай Беларусі (U-19). Збор праходзіць у Мінску ад 1 да 7 верасня.

– Выклік на зборы – вынік нядаўняга таварыскага матча супраць юнацкай зборнай Беларусі. У ім Максім паказаў добрую гульню і забіў гол, – расказаў прэс-аташэ футбольнага клуба "Смаргонь" **Уладзімір Амбрасевіч**.

"Смаргонь" папоўнілі два маладыя абаронцы. Адзін з іх – **Максім Талейка**, апошнім часам гуляў за "Іслач" (Мінскі раён). Другі – **Ігар Жураўлёў**, выступаў за дубль БАТЭ.

Жураўлёў ужо дэбютаваў у складзе "Смаргоні" ў матчы супраць "Бярозы-2010".

### Тры ачкі без гульні

**МАЛАДЗЕЧНА. ВАЛОЖЫН.** Гульні 17 тура чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе пачаліся 30 жніўня.

"Маладзечна-ДЮСШ-4" атрымала тры ачкі. Але ніякіх намаганняў для гэтага прыкласці не давялося, бо "Валожын-2010" зноў не з'явіўся на гульню. Валожынцам залічылі тэхнічнае паражэнне з лікам 0:3.

"Забудова-2007" у змаганні за пападанне ў лік чатырох лепшых каманд, вельмі патрэбная была перамога ў дамашнім матчы з "Коласам" з Чэрвеня. Аднак усяго толькі нічыя 3:3.

У каманды з Чысці вызначыліся **Будай, Працкевіч** і **Ахрамовіч**.

### Лідары сінхронна перамаглі

**ВІЛЕЙКА.** У чэмпіянаце Вілейскага раёна па футболе 30 жніўня "Мехатроніка" абыграла "Шылавічы" 6:2. А ў другога лідара чэмпіянату – "Першага Беларускага" – матч выдаўся не такі лёгкі. Каманда з мінімальнай перавагай абыграла "Чурлёны" – 2:1.

У "Першага Беларускага" і "Мехатроніка" на рахунку 18 ачкоў. Наступны матч лідары згуляюць паміж сабой. На трэцім месцы ідуць "Чурлёны", расказаў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**.

### Віляйчане прайгралі жодзінцам

**ВІЛЕЙКА.** "Вілія" праводзіла матч 31 жніўня дома. Сустракалася з камандай, якая ідзе на другім месцы, – "Жодзіна-2007". Віляйчане прайгралі 1:3.

– Пачалі гульню добра, – расказвае капітан "Віліі" **Алег Гулевіч**. – Першымі забілі гол. **Віктар Сяліцкі** пасля навесу і скідкі галавой выйшаў адзін на адзін з варатаром і адправіў мяч у сетку. Потым расхаладзіліся. У адным з момантаў наш гулец прамазаў па мячы. Гэту памылку выкарыстаў сапернік і забіў гол.

У другім тайме нашым футбалістам не хапіла гульнявой практыкі. Мы ўжо страцілі шанцы трапіць у першую чацвёрку. У гэтай гульні на поле выйшлі многія з тых, хто мала гуляў на абласным узроўні. Змагаліся, але адсутнасць досведу сказалася. Жодзінцы забілі яшчэ два галы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Турнірная табліца чэмпіянату Мінскай вобласці ў групе "А"

| | Каманда | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Маладзечна-ДЮСШ-4 | 17 | 13 | 1 | 3 | 69-17 | 40 |
| 2 | Жодзіна-2007 | 17 | 13 | 0 | 4 | 70-27 | 39 |
| 3 | ФК Барысаў | 17 | 10 | 1 | 6 | 53-31 | 31 |
| 4 | СМІаўтатранс | 17 | 9 | 1 | 7 | 39-30 | 28 |
| 5 | Колас | 17 | 7 | 5 | 5 | 29-28 | 26 |
| 6 | Забудова-2007 | 17 | 8 | 1 | 8 | 55-56 | 25 |
| 7 | Вілія | 17 | 7 | 1 | 9 | 37-38 | 22 |
| 8 | Крупкі-ДРБУ-164 | 17 | 7 | 0 | 10 | 33-60 | 21 |
| 9 | Беразіно | 17 | 3 | 2 | 12 | 30-65 | 11 |
| 10 | Валожын-2010 | 17 | 1 | 2 | 14 | 14-77 | 5 |

 



# Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Дэбаты. Варта аддаваць грошы на мемарыялы ці лепш у медыцыну

18 мільярдаў – гэта не такія ўжо і малыя грошы, калі бюджэт краіны трашчыць па ўсіх швах. І навошта гэта пампезнасць – каб было што пакінуць нашчадкам? Пры нізкім узроўні жыцця, калі смяротнасць перавышае нараджальнасць, то глядзі, што і нашчадкаў не застанецца. Да ўсяго павінны быць разумны падыход. ***Ар'я.***

І сапраўды, нельга не пагадзіцца. Дзюркі ў нас паўсюль. Грошай не хапае ні на што, акрамя якіх-небудзь чарговых "Дажынак" з саламянымі пачварамі ў абліччы чалавека. Хаця і на іх ужо таксама не хапае. Так што ў такой сітуацыі, здаецца, варта вельмі ўдумліва размяркоўваць наш сціплы бюджэт. І можа, лепш частку скіраваць у медыцыну, частку – у адукацыю, частку – у падтрымку грамадскіх ініцыятыў аб захаванні спадчыны. І, вядома, у помнікі. Так, мемарыял Першай сусветнай, як напамін аб вайне, важны. Але калі мы не можам пабудаваць такі мемарыяльны комплекс, не ахвяраваўшы іншымі важнымі сферамі жыцця, то можа, лепш паставіць адну скульптуру? Альбо калі ўсе грошы скіраваць у мемарыялы, то лепш усталяваць адну скульптуру да Першай сусветнай, адну скульптуру – Быкаву, адну скульптуру – Купалу (бо Маладзечну яе абяцаюць ужо гадоў пяць, а грошай усё няма і няма) і г.д. Шмат скульптур розным знакавым асобам Беларусі ў розных гарадах можна было б паставіць замест аднаго мемарыяльнага комплексу. І напамін быў бы. Не толькі аб вайне. А і аб людзях. ***Ружа.***

Шчыра кажучы, увесь артыкул не прачытала. Але раблю выснову з пытання. Навошта нам мемарыялы, калі не знойдзена лекаў ад СНІДу і раку? Мемарыял уласнай некампетэнтнасці? А тыя мемарыялы, што ўжо ёсць, дастаткова падтрымліваць у належным стане. А для гэтага такіх вялікіх грошай не трэба. ***Я.***

А мне падаецца, памяць пра вайну і яе герояў можна захаваць не толькі праз манументы і помнікі, але і праз кнігі, песні і паданні. Для гэтага не трэба шмат сродкаў. Але вось зацікаўленасць у сваім, родным, нават калі яно тычыцца не вайны, у нас вельмі кульгае... ***Нехта.***

Лепш бы знялі грандыёзны фільм з галівудскім размахам. Каб кожны пранікся гісторыяй той вайны на нашай зямлі і захацеў сюды прыехаць. Помнік – гэта заўсёды мёртвае. У сённяшні век гісторыю неабходна ажыўляць. Так пра вайну можна даведацца многа, не выходзячы з дому і не прыязджаючы ў Смаргонь і нават у Беларусь. А то ніводнага годнага фільма пра краіну сусветнага узроўню. ***Аж.***

Лічу, што манументы непатрэбныя. Хопіць звычайнага валуна з шыльдай. А грашовыя сродкі лепш укласці ў добраўпарадкаванне вайсковых могілак усіх армій. ***Ніфеус.***

Кожны цягне коўдру на сябе. Скульптары гавораць, што патрэбны скульптуры, мастакі, што карціны, медыкі рупяцца за медыцыну, настаўнікі за адукацыю... Усё ў меру, таварышы! Калі няма грошай на тое, каб нармальна развівалася медыцына, на свае патрэбы, то людзям не да помнікаў. Яны патрэбныя, але калі людзі да гэтага саспеюць. ***Лія.***

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 6 | | 5 | | | 2 | | 3 |
| | | | | | | | 5 | |
| | 5 | 1 | | 2 | | | 9 | |
| | | | | | 1 | 5 | 2 | |
| 4 | | 9 | 7 | | 5 | 8 | | 1 |
| | 1 | 7 | 2 | | | | | |
| | 4 | | | 1 | | 6 | 8 | |
| | 9 | | | | | | | |
| 1 | | 6 | | | 8 | | 4 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## ● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МЯДЗЕЛА



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**З пакупкай. Юная віляйчанка трымае лазовую карзіну са свята майстроў.**

## ● РЭПЕРТУАРЫ

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прэм'ера! Сямейныя прыгоды **"Гісторыя дэльфіна 2"** (ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
11 верасня – у 18:30

Прэм'ера! Фантастычны баявік Люка Бесона **"Люсі"** (Францыя, 2014, прагляд фільма дазволены гледачам з 16 гадоў)
11 верасня – у 21:00

Баявік, трылер **"Нястрымныя 3"** (ЗША, Францыя, 2014, прагляд фільма дазволены гледачам з 16 гадоў)
5 верасня – у 21:00
6 верасня – у 22:00
7 верасня – у 18:30
8 верасня – у 21:00
9 верасня – у 18:30
10 верасня – у 21:00
Кошт білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Анімацыйная камедыя **"Самалёты: Агонь і вада"**, 3D (ЗША, Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
5 верасня – у 16:30
6 верасня – у 14:00, 18:00
7 верасня – у 12:30, 16:30
10 верасня – у 17:00
11 верасня – у 16:30
Кошт білета: 25 000-30 000 рублёў

Крымінальны трылер, баявік **"Горад грахоў 2: Жанчына, дзеля якой варта забіваць"**, 3D (ЗША, 2014, прагляд фільма дазволены гледачам з 18 гадоў)
5 верасня – у 18:30
7 верасня – у 21:00
9 верасня – у 21:00
Кошт білета: 50 000 рублёў

Камедыя, фэнтэзі **"Таямніца чатырох прынцэс"**, 3D (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
6 верасня – у 16:00
7 верасня – у 14:30
Кошт білета: 30 000 рублёў

Трылер, баявік **"Насустрач шторму"**, 2D (ЗША, 2014, дзецям да 14 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
6 верасня – у 20:00
8 верасня – у 19:00
10 верасня – у 19:00
Кошт білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя **"Дзінамама"** (ЗША, 2012, без узроставых абмежаванняў)
5-7 верасня – у 16:00
Кошт білета: 15 000 рублёў

Меладрама **"Экзамен для дваіх"** (ЗША, 2013, прагляд фільма дазволены гледачам з 16 гадоў)
5, 6 верасня – у 21:30
7 верасня – у 19:30
8 верасня – у 21:30
Кошт білета: 35 000 рублёў

Фэнтэзі, камедыя **"Сямейка вампіраў"** (Германія, 2012, дзецям да 12 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
5, 6 верасня – у 19:30
7 верасня – у 21:30
Кошт білета: 35 000 рублёў

Драма, камедыя **"Гэтай раніцай у Нью-Ёрку"** (ЗША, 2014, дзецям да 12 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
9, 10 верасня – у 19:30
11 верасня – у 21:30
Кошт білета: 35 000 рублёў

Драма **"На крылах"** (Расія, 2013, дзецям да 12 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
9, 10 верасня – у 21:30
11 верасня – у 19:30
Кошт білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя "**Цётачкі**" (Расія, дзецям да 14 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
5, 6, 7 верасня – у 18:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Меладрама "**Піцер. Лета. Каханне**" (Расія, дзецям да 14 гадоў прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога )
5, 6, 7 верасня – у 21:00
Кошт білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Дзінамама**" (ЗША, без узроставых абмежаванняў)
6, 7 верасня – у 15:00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

## ● ГАРАСКОП (5-11 ВЕРАСНЯ)



**Авен.** Ваш шчаслівы дзень тыдня – аўторак, асабліва 9, 18, 27 чыслы. Гэта дзень Марса. Ён узнагародзіў аўторак актыўнасцю, энергіяй, амбіцыйнасцю. Цяжкім дзень, але для вас – найлепшы. Удача будзе на вашым баку.



**Цялец.** Цаніце тых, хто вас любіць. Не крыўдзіце іх, не сварыцеся. Вы ж не ведаеце, як можа развесці жыццё. Вы зробіце нейкі непрыстойны ўчынак і такім застанецеся ў іх памяці.



**Блізняты.** Удача ўвесь месяц будзе ісці побач з вамі. Сачыце за тым, каб яна не закружыла вам галаву і не прытупіла пільнасць. Бо некаму, можа, з зайздрасці, захочацца спусціць вас з нябёс на зямлю.



**Рак.** Ідзіце сваім шляхам і нічога не бойцеся. Памятайце, што выбар дзеянняў і прыняцце рашэнняў заўсёды застаецца за самім чалавекам.



**Леў.** Будуць задаволеныя практычна любыя кар'ерныя намеры. Асноўнай перамогай у гэты перыяд стане дасягненне недатыкальнасці. А яшчэ вам захочацца цішыні і спакою.



**Дзева.** У дні, калі Месяц знаходзіцца ў Раку, Рыбах, Скарпіёне, старайцеся не мыць галавы. Бо вада ў гэтыя дні становіцца больш актыўнай, моцнай, яна можа змыць не толькі бруд, але і карысную энергетыку.



**Шалі.** Каб сапраўды пачаць новае жыццё, трэба пазбавіцца ад таго, што цягне назад. Проста яго адпусціце. І не шкадуйце таго, што было.



**Скарпіён.** Калі жадаеце дабіцца нечага ад каханага свайго, шукайце абходныя шляхі. Настойлівасць тут не дапаможа.



**Стралец.** Як толькі вы ўладкуецеся ва ўтульным месцы, каб нічога не рабіць, абставіны тут жа прымушаюць змяніць планы. Але ўсё да лепшага.



**Казярог.** Займіцеся арганізацыяй вольнага часу сваіх блізкіх. Паклапаціцеся аб іх камфорце і эмацыйным стане.



**Вадалей.** Не давалайце свайму меланхалічнаму настрою валодаць вамі. Ужо раскрываюцца такія перспектывы, што аж дух будзе займаць.



**Рыбы.** Усё, што вы робіце, будзе заканчвацца, калі не аглушальным поспехам, то сціплай перамогай над самім сабой.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**



 

ISSN 1991-7155



Рэгіянальная газета. Rh.by Тэлетыдзень

● НАДВОР'Е

**6 верасня, субота**

| | Пятніца | Субота | Нядзеля | Панядзелак |
|---|---|---|---|---|
| Мінск | +12 +17, 749, ↖ 5 | +13 +17, 749, ↖ 4 | +13 +17, 745, ↖ 2 | +12 +19, 745, ↖ 2 |
| Вільня | +11 +17, 758, ↖ 6 | +11 +17, 753, ↑ 3 | +11 +19, 753, ↖ 3 | +12 +21, 752, ↑ 4 |

Тэмпература Вобла наваць. паветра, атадзі Ціск, Хуткасць ветра (мм рт. сл.) м/с

Усход 6:30, Захад 18:10, Даўжыня дня 11.40

Усход 19:51, Захад 02:46, Квадра 2




● ПРЫКМЕТЫ

- Халодны ранак на Наталлю-аўсяніцу (8 верасня) абяцае раннюю халодную зіму.
- Іван Галавасек (11 верасня). У гэты дзень не ўжывалі ў страву ўсё тое, што мела круглую форму. Стараліся нічога не сячы і не рэзаць, хлеб ламалі рукамі. Не рабілі ніякіх справ на агародзе.

● КОНКУРСЫ

## Гурт "Тары-Бары" перамог

**МАЛАДЗЕЧНА.** Народны гурт "Тары-Бары" дзіцячага цэнтра культуры "Расток" удзельнічаў у пятым абласным фестывалі гумару і смеху "Капыльскія пацехі".

Музычна-гумарыстычная пастаноўка "Госць на парог – шчасце ў хату" заняла другое месца. Рэжысёр-пастаноўшчык – дырэктар цэнтра **Алена Сакалоўская**.

За ўдзел у конкурсе атрымалі два дыпломы і мікрахвалёўку.

Пра гэта распавяла метадыст "Растка" **Роза Пузянкова**.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Чытайце праз тыдзень:

**Хто цяпер займаецца ручным ткацтвам і габеленам? Ці вяртаецца мода на гэта мастацтва? Пра тое, як адрозніць ручную працу ад машынный, чытайце ў наступным нумары "РГ".**































Рэгіянальная газета. Rh.by
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 36 (1010) 05.09.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02385 ат 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 699. Падпісана ў друк у 10.00 04.09.2014.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.